# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№ 4 (191)
красавік 2018

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”

## У НУМАРЫ:

### Беларусы Канады прэзентавалі ў Таронта спектакль “Вуліца Геніюш”

14 красавіка ў зале Беларускага культурна-рэлігійнага цэнтру Таронта адбылася прэм’ера.

**Працяг на старонцы 2.**

### Дзе шукаць “Беларускія сляды ў Беластоку”?

Неўзабаве кожны ахвотны зможа знайсці “Беларускія сляды ў Беластоку”. Беластоцкія беларусы ствараюць адмысловую мапу на некалькіх мовах.

**Працяг на старонцы 4.**

### У Кішынёве адкрылі помнік Скарыну

Геніка Лойку, аўтара помніка беларускаму першадрукару Францішку Скарыну ў сталіцы Малдовы, на адкрыццё не запрасілі.

**Працяг на старонцы 7.**

### Пасольства Беларусі ў Аўстраліі спыніць сваю работу

Грамадзяне, якія знаходзяцца на консульскім уліку ў пасольстве Беларусі ў Аўстраліі, будуць пераведзены на консульскі ўлік у пасольства Беларусі ў Інданезіі.

**Працяг на старонцы 8.**




# “МАСЕЙ СЯДНЁЎ: PRO ET CONTRA”

Пабачыла свет новая, ужо 36-я кніга выдавецкай серыі “Бібліятэка “Бацькаўшчыны”, прысвечаная выбітнаму дзеячу эміграцыі, паэту, празаіку, крытыку, філолагу, кіраўніку беларускай службы радыё “Свабода” з 1968 па 1983 гг. – Масею Сяднёву.

Каментары аўтара-ўкладальніка Лявона Юрэвіча, сябра Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, гэтым разам падкрэслена мінімалістычныя, бо тэксты змешчаных у выданні лістоў і тэкстаў Масея Сяднёва (1913–2001), а таксама згадкі пра яго асобу ў ліставанні калегаў і паплечнікаў, красамоўна гавораць самі за сябе. Нават назва кнігі як быццам рыхтуе чытачоў да сутыкнення з нейкімі неадназначнасцямі, супярэчнасцямі, з неабходнасцю ўзважваць аргументы “за” і “супраць”.

Неадназначнасцяў у жыцці галоўнага героя новай кнігі стала. Савецкія ўлады ў 1936 годзе звінавацілі маладога беларускага творцу, студэнта Мінскага педагагічнага інстытута, у “нацдэмаўшчыне” і выслалі на Калыму. Накіраваны з этапам на Радзіму для перагляду справы, у чэрвені 1941 года Масей Сяднёў вызваліўся з-пад канвою, бо ў Беларусі пачалася вайна. У 1943 годзе з’ехаў у Беласток (дзе зноў пачаў друкавацца), у 1944-м – у Нямеччыну (дзе пражываў у зонах акупацыі войскамі саюзнікаў), а ў 1950 годзе – у ЗША, дзе блізу дзесяці гадоў працаваў на металаапрацоўчай фабрыцы, а пасля, да самага ад’езду ў 1968 годзе ў Мюнхен (каб да 1983 года кіраваць беларускай службай радыё “Свабода”), выкладаў расійскую мову ва ўніверсітэце Індыяны і тамсама атрымоўваў ступень магістра філалагічных навук. У канцы 1980-х Масей Сяднёў нават вылучаўся на Нобелеўскую прэмію, а на пачатку 1990-х, яшчэ не рэабілітаваны, змог афіцыйна наведаць незалежную Рэспубліку Беларусь.

Недахопу ў супярэчнасцях Масей Сяднёў не меў таксама – ні ў поглядах, ні ў дачыненнях з калегамі. Для характарыстыкі апошніх, як вынікае з тэкстаў выдання, добра пасуе штамп “творчы канфлікт”, а шчодра цытаваныя шчырыя літаратурна-крытычныя тэксты Сяднёва не згубілі сваёй актуальнасці і нават сёння здольныя выклікаць найвострую палеміку.

Выданне ўтрымлівае падрабязныя падрадковыя каментары і іменны паказнік, падрыхтаваныя навукоўцам, намесніцай дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Наталляй Гардзіенка.

**Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”**

навіны

# БЕЛАРУСЫ КАНАДЫ ПРЭЗЕНТАВАЛІ Ў ТАРОНТА СПЕКТАКЛЬ "ВУЛІЦА ГЕНІЮШ"

14 красавіка ў залі Беларускага культурна-рэлігійнага цэнтру Таронта адбылася прэм'ера спектакля "Вуліца Геніюш", прысвечаная 100-годдзю БНР.




Зараз ужо можна сказаць, што гэты спектакль стаў вялікай падзеяй беларускага замежжа. Нягледзячы на ледзяны дождж, які ліў з раніцы, на прэм'еру сабралася больш за 60 чалавек з розных гарадоў Канады – Таронта і прыгарадаў, Лондана, Атавы, Кітчэнэра і Манрэаля.

Людзей, якія размаўлялі на беларускай, рускай, украінскай і ангельскай мовах, у гэты вечар аб'яднала і сагрэла энергія творчасці, моц і прыгажосць душы Ларысы Геніюш. Трагічны лёс гэтай вялікай жанчыны, яе вершы нікога не пакінулі абыякавым. Часам па скуры бег мароз – настолькі кранальна акторы даносілі свае пачуцці да гледачоў, яны на працягу гадзіны літаральна перажывалі лёс Геніюш.

Кожны з выканаўцаў быццам прадстаўляў асобную эмоцыю – пяшчотнасць і смеласць, лагоднасць і ярасць, пранізлівасць і сталасць, годнасць і каханне – а ў выніку атрымаўся жывы вобраз жанчыны, якая засталася няскоранай.

Пасля спектакля гледачы казалі, што даўно не адчувалі сябе так узвышана, што для іх былі адкрыццём лёс Ларысы Геніюш і яе вершы.

Па шматлікіх просьбах спектакль будзе паўтораны праз некалькі тыдняў.

**Валянціна Шаўчэнка**

# АЛЯКСАНДР ФЯДУТА – ЛАЎРЭАТ ПРЭМІІ САПЕГІ

Прэмію заснавалі ў Польшчы 12 гадоў таму адмыслова для ўшанавання беларусаў за заслугі ў развіцці грамадзянскай супольнасці і будове дэмакратычнай краіны.



Заснавальнікі ўзнагароды – Асяродак вывучэння Усходняй Еўропы ў Варшаве і Калегіум Усходняй Еўропы ўва Вроцлаве. Прэмію падтрымалі Варшаўскі, Вроцлаўскі, Ягелонскі і Беластоцкі ўніверсітэты, а таксама ўніверсітэт Адама Міцкевіча ў Познані.

Галоўны прынцып прэміі ў тым, што лаўрэат цягам года наведвае польскія ўніверсітэты з лекцыямі па беларускай тэматыцы, дазваляючы студэнтам розных універсітэтаў бліжэй пазнаёміцца з Беларуссю. Асаблівасць прэміі ў тым, што кандыдаты могуць вылучаць сябе самі, дасылаючы заяву журы ўзнагароды.

Калі пераможца па выніках гадавога візіту ў Польшчы піша кнігу – яму дапамагаюць у яе выданні.

Аляксандр Фядута – доктар філалагічных навук, выкладае ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце ў Вільні.

Фядута стане трынаццатым лаўрэатам Сапегаўскай узнагароды. Дагэтуль прэміі атрымлівалі гісторык Валянцін Голубеў, літаратуразнаўца Язэп Янушкевіч, гарадзенскі гісторык Сяргей Токць, навукоўцы Аляксандр Жлутка, Уладзімір Ляхоўскі, Андрэй Ляховіч, Алесь Лагвінец, Пятро Рудкоўскі, Іна Соркіна і Аляксандр Смалянчук.

Цырымонія ўручэння адбываецца ў Варшаўскім універсітэце кожны год 4 красавіка – у дзень нараджэння вялікага канцлера і вялікага гетмана ВКЛ Льва Сапегі.

**ДД, "Белсат"**

# У ЛІДСКІМ РАЁНЕ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

У вёсцы Ёдкі, каля ўсталяванага да стагоддзя БНР памятнага каменя, актывісты з Ліды і Бярозаўкі чыталі вершы Ларысы Геніюш, спявалі песні на яе словы, прыгадвалі яе біяграфію, а таксама тых, хто змагаўся за БНР.




З ініцыятывай ушанаваць 35-я ўгодкі з дня смерці Ларысы Геніюш выступіла Лідская арганізацыя Таварыства беларускай мовы. Паводле актывіста Вітольда Ашурка, у Ёдкі сабраліся каля 20 чалавек з розных грамадскіх арганізацый.

"Па чарзе хлопцы чыталі вершы Ларысы Геніюш, бард Сяргей Чарняк спяваў песні на яе словы, – кажа Ашурак. – І вельмі цікава пра Геніюш распавядаў Станіслаў Суднік. Ён сказаў, што ў таго пакалення, да якога належыць Ларыса Геніюш, фактычна нічога не было, акрамя веры ў Беларусь, нават надзеі не было. А нам, маўляў, сёння лягчэй, паколькі ёсць вера, ёсць надзея і нават невялікія поспехі. Мне вельмі гэта запомнілася".

"Наогул, атмасфера ў нас была веснавая, перадвелікодная, шчырая", – зазначыў Свабодзе Станіслаў Суднік.

**ММ, "Радыё Свабода"**



# ЛІСТ АД ІВОНКІ СУРВІЛЛЫ З НАГОДЫ ЎРАЧЫСТАСЦЯЎ ДА 100-ГОДДЗЯ БНР У СВЕЦЕ

Дарагія Суродзічы, дарагія Сябры Беларусы!

Пішу гэты ліст перад усім, каб выказаць маю ўдзячнасць пасля святкаванняў у Беларусі і ў свеце сотых угодкаў абвешчання незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 года.

Я яшчэ ўсё пад ўражаннем урачыстасцяў і энтузіязму, з якім вы адзначылі стагоддзе БНР. Ведаю, што будзе яшчэ шмат мерапрыемстваў у 2018 годзе з гэтае нагоды, але хочацца вам ужо цяпер падзякаваць за радасць, якою вы напоўнілі маё сэрца ў сакавіку 2018 г.

Хачу вам падзякаваць за тыя цудоўныя святкаванні, на якіх я прысутнічала асабіста ў Атаве, у Лондане і ў Празе, і за ўсе тыя, на якіх я не змагла прысутнічаць. Удзячная вам за вялізарную працу, якую вы ўлажылі, каб зрабіць гэтыя святкаванні годнымі вялікай падзеі, якой былі сотыя ўгодкі абвешчання незалежнасці БНР. Удзячная ўсім, хто прыйшоў на святкаванні, каб належна адзначыць Стагоддзе БНР.

Ганаруся нашым народам, які ўжо сто год беражэ ідэалы БНР. Ганаруся нашай моладдзю, якая з такім уздымам выказала сваю любоў да Бацькаўшчыны! Удзячная таксама ўсім тым, хто прадаўжае святкаваць Стагоддзе. Перад намі яшчэ восем месяцаў гэтага юбілейнага году! Яшчэ столькі магчымасцяў выказаць нашую вернасць ідэалам БНР і задумацца над тым, як кожны з нас можа спрычыніцца да іх здзейснення.

Вітаю ўсіх вас ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, мае дарагія Сябры!

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла,
Старшыня Рады БНР**

навіны "Будзьма беларусамі!"

# "КІРМАШ ПРАЕКТАЎ" У ОРШЫ

Другі этап акцыі "Кірмаш праектаў", якую ў розных гарадах Беларусі ладзіць кампанія "Будзьма беларусамі!", прайшоў у Оршы.




Вёў імпрэзу Аляксандр Агееў – выкладчык магілёўскага МДУ імя Куляшова, кандыдат гістарычных навук. Прэзентацыя праектаў і іх абмеркаванне адбыліся 18 красавіка ў канферэнц-зале гасцініцы "Орша".

Імпрэза сабрала неабыякавых жыхароў горада, якія разам з экспертным журы актыўна ўключыліся ў абмеркаванне праектаў і выставілі свае адзнакі для далейшага адбору самых перспектыўных ідэй.

*"Фестываль рухомых гульняў"*. Фестываль праводзілі летась. Аўтарка ідэі Алена Кучынская паведаміла, што сёлета арганізатары хочуць пашырыць фестываль і шукаюць фінансавай падтрымкі, каб набыць неабходны інвентар, а таксама падарункі і прызы для ўдзельнікаў.

*"Арт-прастора"*. Праектператварэння закінутага памяшкання былога кінапракату ў агульнадаступную пляцоўку для творчай самарэалізацыі людзей прадставіў Аляксандр Макарэвіч. На дадзены момант будынак ператвараецца ў сметнік, прытулак для асацыяльных элементаў, паціху разбураецца. Мясцовае ЖЭУ, якому належаць пабудовы, не супраць гэта ўсё прадаць, але з пачатковым коштам прыкладна ў 28 тысяч рублёў.

*"Орша – сталіца новага віду спорту"*. Першы чэмпіянат свету па гульні "Квадрат" – вядомай і папулярнай у свой час дваровай гульні з мячом, у якую на постсавецкай прасторы гулялі амаль у кожным двары і якую ведаюць ва ўсім свеце, прэзентаваў Ігар Казмерчак. Чэмпіянат можа ў перспектыве ператварыць Оршу ў сталіцу новага віду спорту. Існуе папярэдняя дамоўленасць з адміністрацыяй стадыёна "Лакаматыў", ёсць шэраг патэнцыйных удзельнікаў, нават за межамі Беларусі – у ЗША, Ізраілі, Чэхіі і Польшчы. На сённяшні момант не хапае перш за ўсё фінансавых рэсурсаў, таксама няма ўпэўненасці ў падтрымцы ініцыятывы з боку мясцовага чыноўніцтва, бракуе пакуль і спецыялістаў, якія маюць досвед у арганізацыі вялікіх спартовых спаборніцтваў.

*"Школа бізнесу для пачаткоўцаў "Прызма"*. Дыяна Рабекіна і Дзяніс Сімановіч прадставілі праект сучаснай бізнес-школы. Ідэя праекта палягае ў стварэнні кластара прадпрымальнікаў у розных відах дзейнасці, якія будуць не канкураваць, а ўзаемна дапаўняць адзін аднаго. Аўтары праекта прапануюць арганізаваць бясплатныя бізнес-курсы, выкладчыкамі на якія запрасіць дзейных бізнесоўцаў, якія маглі б стаць і "куратарамі" маладых прадпрымальнікаў, а таксама розных іншых адмыслоўцаў, зацікаўленых у развіцці рэгіёна. Курсы бізнесу плануецца праводзіць па сістэме "роўны навучае роўнага" і выкладаць не толькі асновы бухгалтэрыі ці вядзення дакументацыі, але і псіхалогію бізнесу, менеджменту, пошуку ідэй і магчымасцяў сваёй рэалізацыі. Асноўная мэта праекта – пераадолець дэпрэсіўнае становішча, у якім знаходзіцца рэгіён, а гэта і недахоп працоўных месцаў, і тэхналагічна састарэлыя прадпрыемствы, якія яшчэ хоць неяк працуюць, і, як вынік, нізкія заробкі, а таксама разнастайныя бюракратычныя складанасці.

*"Фестываль вулічных культур"*. Правесці фэст на закінутым ваенным аэрадроме ў пасёлку Балбасава пад Оршай прапанавала Ганна Свішчава. Такі фестываль можа абудзіць актыўнасць жыхароў, прыцягнуць турыстаў.

Вынікі галасавання будуць апублікаваныя на сайце кампаніі "Будзьма беларусамі!", а сама кампанія разам з Цэнтрам даследавання грамадскага кіравання "СІМПА" акажа ўсю магчымую дапамогу найбольш цікавым і абгрунтаваным праектам. Галоўнае, каб аўтары праектаў сабралі зладжаную каманду і вызначаліся з канкрэтнымі крокамі па рэалізацыі сваіх ідэй.

**Алесь Сабалеўскі**

# У ВЕРХНЯДЗВІНСКУ АБМЕРКАВАЛІ ГАРАДСКІ ПАТЭНЦЫЯЛ

У Верхнядзвінску прайшло ток-шоў, дзе абмяркоўваліся гарадскія актыўнасці.

У пачатку мерапрыемства каардынатар кампаніі "Будзьма беларусамі!" па Віцебскай вобласці Уладзь Булаўскі, які быў мадэратарам сустрэчы, павітаў усіх прысутных і даў слова Валянціне Болбат, кіраўніцы грамадскага аб'яднання "Самакіраванне і грамадства" ў Верхнядзвінску, якая распавяла, што сёлета горад рыхтуецца да абласнога свята "Дажынкі", праходзіць шмат работ па добраўпарадкаванні і падзякавала гарадскім уладам, якія заўжды падтрымліваюць ідэі жыхароў і імкнуцца дапамагаць з іх рэалізацыяй.




На ток-шоў завітала старшыня райсавета Ірына Козел, якая сказала, што заўжды робіць усё, што ў яе сілах, каб верхнядзвінцы маглі адчуваць падтрымку. Намесніца старшыні райвыканкама Таццяна Сявалкіна заўважыла, што ў горадзе лічаць важнай супрацоўніцтва з актывістамі, шануюць іх крэатыўнасць і радыя ім дапамагаць.

На сустрэчы было шмат супрацоўнікаў верхнядзвінскіх арганізацый, якіх Уладзь пазнаёміў з дзейнасцю кампаніі "Будзьма беларусамі!", а рэгіянальная каардынатарка Наста Дашкевіч падзялілася, чым кампанія можа дапамагаць на лакальным узроўні.

Гаворку працягнуў браслаўскі актывіст Галляш Сялява, які падзяліўся досведам стварэння мясцовай супольнасці і камунікацыі з жыхарамі, а таксама правёў паралель паміж гарадамі, зазначыўшы, што можна браць гатовыя рашэнні для рэалізацыі сацыяльных і іншых праектаў.

Валянціна Болбат распавяла пра ініцыятыву "Утульны дворык" – у адным з мікрараёнаў верхнядзвінцы самі стварылі файную пляцоўку для адпачынку, пабудавалі пясочніцу, пасадзілі дрэвы, а таксама неўзабаве плануюць усталяваць дарожныя знакі, каб дзеці маглі вывучаць правілы дарожнага руху. Цікава было даведацца і пра "Свята раёна", якое зладзіла арганізацыя шматдзетных маці. У планах пабудова яшчэ адной пляцоўкі, трох домікаў для птушак, прыступак, альтанкі і высадка алеі. Для дзяцей ладзяць конкурс малюнкаў казачных герояў, якія будуць нанесеныя на сцяну.

Падчас дыскусіі закранулі і пытанне важнасці лакальных брэндаў.

Агулам прысутныя вырашылі, што варта ладзіць такія сустрэчы хаця б некалькі разоў на год, каб абменьвацца вопытам, інфармацыяй і кантактамі.

**Болей навінаў чытайце на budzma.by**

навіны

# ДЗЕ ШУКАЦЬ “БЕЛАРУСКІЯ СЛЯДЫ Ў БЕЛАСТОКУ”?

Неўзабаве кожны ахвотны зможа знайсці “Беларускія сляды ў Беластоку”. Беластоцкія беларусы ствараюць адмысловую мапу на некалькіх мовах.




Заўсёды вельмі прыемна прадстаўляць гасцей нашай студыі, а сёння яшчэ больш, бо акрамя ўсяго іншага – гэта наш рэдакцыйны калега, журналіст, гарадскі актывіст Лукаш Леанюк, які з’яўляецца аўтарам праекта “Беларускія сляды ў Беластоку”. Заяўляецца, што галоўная мэта праекта паказаць цікавыя месцы ў сталіцы Падляшша, якія звязаныя з яго гісторыяй: паказаць цікавосткі, звязаныя менавіта з беларускасцю.

**Лукаш Леанюк:** Менавіта беларускую гісторыю хочацца паказаць мясцовым жыхарам, а таксама турыстам, якія прыязджаюць да нас. Мы хочам паказаць месцы, якія ў Беластоку звязаныя з беларускай гісторыяй і культурай. Праект прадугледжвае стварэнне мапы гэтых месцаў, дзе гэтыя кропкі будуць пазначаныя ў выглядзе будынкаў. Мы хочам, каб наш мастак-графік намаляваў іх у выглядзе будынкаў. Некаторыя будынкі ўжо не існуюць, таму будзем старацца неяк рэканструяваць іх выгляд. Гэта першая мэта. Другой мэтай з’яўляюцца адмысловыя шпацыры па Беластоку. Першы шпацыр адбудзецца на пачатку праекта, калі мы проста наведаем гэтыя месцы, у якім зможа ўзяць удзел кожны ахвотны. Другі шпацыр будзе завяршальным, тады ўсе ахвочыя змогуць атрымаць нашы мапы.

**РР: Мапа мае быць на трох мовах. Якія гэта будуць мовы?**

**Лукаш Леанюк:** Мапа мае быць на беларускай, польскай ды ангельскай мовах. Мы хочам паказаць турыстам з розных краін, што ў Беластоку шмат беларускіх месцаў. У гэтым годзе адзначаецца 100-годзе БНР, таму гэты праект прымеркаваны і да гэтай даты.

**РР: Калі вы пісалі гэты праект, каго вы бачылі галоўным адрасатам? Хто будзе найбольш зацікаўлены ў атрыманні гэтай мапы?**

**Лукаш Леанюк:** Перадусім мы думалі пра мясцовых жыхароў, бо беларуская гісторыя Беластока ім невядомая. З дапамогай гэтага праекта працей пазначыць беларускія месцы, у адрозненні ад усталявання памятных дошак, што надзвычай цяжка зрабіць. У выпадку з мапай на гэта спатрэбіцца менш высілкаў і сродкаў. Мапа застанецца, і памяць пра гэтыя месцы будзе жыць у памяці людзей. Таксама мы падумалі пра людзей, якія прыязджаюць па пакупкі, але штораз больш людзей прыязджае, каб адпачыць.

**РР: Падобны праект “Беларускі Беласток”, аўтарам якога з’яўляецца наш іншы рэдакцыйны калега Аляксей Трубкін, ужо існуе. Наколькі праекты пераклікаюцца?**

**Лукаш Леанюк:** Так, такі праект ёсць у інтэрнэце. Многія мае сябры, калі я казаў пра гэты праект, з цікаўнасцю пыталіся ці ёсць польскамоўная версія. На жаль, па-польску чагосьці такога пакуль няма. Я ўжо размаўляў з Аляксеем Трубкіным, які зрабіў гэты праект, падрыхтаваў, сабраў гэтую інфармацыю пра беларускія месцы ў Беластоку. Мы будзем выкарыстоўваць інфармацыю, якую ён падрыхтаваў.

**РР: Гэты праект не патрабуе шмат сродкаў, але ўсё ж такі яны патрэбныя.**

**Лукаш Леанюк:** Так, трэба было атрымаць сродкі. Мы атрымалі іх на гэта дзякуючы Маршалкоўскай упраўе.

Яна Запольская,
“Беларускае Радыё Рацыя”



# ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГІ ГАННЫ КАНДРАЦЮК У БЕЛАСТОКУ

“Па Прыпяці па Нобель” – цыкл рэпартажаў, які расказвае пра ўкраінскае Палессе.

Кніжка ўражвае апісаннямі звычаяў ды каларытных палешукоў, кажа Мікола Ваўранюк: “Як я прачытаў гэта, адразу захацеў паехаць на Палессе. Ганна Кандрацюк мае талент, прыродную здольнасць да таго, каб сустракаць цікавых людзей, якія тут на кожнай старонцы гэтай кніжкі”.

Беластоцкія чытачы сустрэліся з аўтаркай у “Склепе з культурай”. Мерапрыемства было зладжанае Аб’яднаннем “АБ-БА”. У траўні кніжка будзе мець сваю прамоцыю ў Мінску.

Уля Шубзда, “Беларускае Радыё Рацыя”

# З ГЕРБА БЕЛАСТОКА ПРЫБЯРУЦЬ “ПАГОНЮ”?

Радны Кшыштаф Стаўніцкі ад “Права і справядлівасці” хоча вярнуць гістарычны герб.

На сучасным гербе Беластока выяўлены Белы арол на чырвоным і Пагоня на жоўтым фоне. Але “праблема” ў тым, што ён быў нададзены расійскім царом Аляксандрам I у 1809 годзе. Стаўніцкі хацеў бы, каб горад вярнуў першапачатковы герб – Грыфа з ініцыяламі Яна Клеменса Браніцкага. Ён адзначае, што герб быў нададзены каралём Аўгустам III у 1749 г.

У якасці абгрунтавання прыводзіцца меркаванне геральдычнай камісіі, якая ўжо некалькі разоў выказвалася за вяртанне гістарычнага герба, негатыўна ацэньваючы сучасны.

Гэта ўжо не першая спроба змены герба. У 2012 годзе падобная ініцыятыва сыходзіла ад тагачаснага кіраўніка рады горада Владзімежа Кусака ад “Грамадзянскай платформы”.

“Беларускае Радыё Рацыя”
паводле bialystokonline.pl





навіны

# “СВАБОДНЫ ТЭАТР” СТАЎ ЛАЎРЭАТАМ ПРАВААБАРОНЧАЙ ПРЭМІІ ІМЯ ВАЦЛАВА ГАЎЛА

Міжнародная праваабарончая арганізацыя Human Rights Foundation назвала двух з трох лаўрэатаў штогадовай праваабарончай прэміі за 2018 год сярод творцаў-дысідэнтаў.

Імі сталі “Беларускі свабодны тэатр”, не зарэгістраваны на радзіме і змушаны выступаць у “падполлі”, і хіп-хоп-музыкант з Паўднёвага Судана Эмануэль Джал, які ў дзяцінстве ваяваў у паўстанцкім войску. Прэмія будзе ўручаная ў Осла 30 траўня на адмысловай цырымоніі, калі абвесцяць і трэцяга лаўрэата.



“Беларускі свабодны тэатр” быў заснаваны ў 2005 годзе.

Да 2011 года тэатар не быў юрыдычнай асобай і аб’ядноўваў некалькіх акторaў, рэжысёраў і адміністратараў. У 2011 годзе, калі яго ныя кіраўнікі, Мікалай Халезін і Наталля Каляда, атрымалі палітычнае прыстанішча ў Вялікабрытаніі, тэатр быў зарэгістраваны ў Лондане. Але асноўная трупа працягвае працаваць у Беларусі падпольна.

Як мяркуе сузаснавальніца тэатра Натальля Каляда, тэатр забараняюць з палітычных прычын.

“У краіне, дзе дзяржава кантралюе кожны аспект жыцця, кожны чалавек мае патэнцыял, каб выказваць пратэст па-свойму. І мільён маленькіх пратэстаў можа ў выніку спыніць нават самую моцную з дыктатур”, – кажа Натальля Каляда.

Спектаклі, якія ставіць “Свабодны тэатр”, наўпрост тычацца тэмы правоў людзей, расказваюць пра вострыя сацыяльныя і палітычныя праблемы беларускага грамадства, у тым ліку аб выкрадanні лідараў апазіцыі. Акторы праводзяць пастаноўкі на засакрэчаных ад уладаў пляцоўках – у кавярнях, арандаваных кватэрах і нават на прыродзе. У красавіку 2017 год “Свабодны тэатр” мусіў адмяніць прэм’еру спектакля праз затрыманні шэрагу акторaў падчас антыўрадавага мітынгу.

Пра тое, як працуе “Беларускі свабодны тэатр”, і пра ролю авангарднага тэатру ў сучасным свеце Мікалай Халезін расказаў у эксклюзіўным інтэрв’ю расійскай службе “Голасу Амерыкі”.

Прэмія Вацлава Гаўла за творчае іншадумства прысуджаецца з 2012 года. Паводле прэзідэнта Human Rights Foundation Тора Халворсэна, ёю адзначаюць тых, хто “праяўляе смеласць і крэатыўнасць, кідаючы выклік несправядлівасці”.

Сярод лаўрэатаў прэміі – кітайскі мастак і былы палітвязень Ай Вэйвэй, бірманская актывістка Аун Сан Су Чжы, сірыйскі карыкатурыст Алі Фарзат, група Pussy Riot, іранская карыкатурыстка Стэна Фаргадані і ўзбекская фотажурналістка Уміда Ахмедава.

Вацлаў Гавэл – чэшскі пісьменнік, драматург, дысідэнт, праваабаронца і дзяржаўны дзеяч, апошні прэзідэнт Чэхаславакіі (1989–1992) і першы прэзідэнт Чэхіі (1993–2003).

“Радыё Свабода”

## БАЛЬШЫНЯ ПАДПІСАНТАЎ ДЭКЛАРАЦЫІ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ІЗРАІЛЯ — ЛЮДЗІ З БЕЛАРУСІ

У Ізраілі адзначылі 70-годдзе незалежнасці.

Дэкларацыю незалежнасці Ізраіля падпісалі 37 чалавек: 9 з іх нарадзіліся на тэрыторыі цяперашняй Украіны, 7 – Польшчы, 3 – Малдовы, па 2 – Нямеччыны і Літвы і па 1 – Вугоршчыны, Даніі, Емена і Палесціны (у складзе Асманскай імперыі). А найбольш падпісантаў – 10 – паходзяць з Беларусі.




Вось яны:

**Эліягу Бэрлін** (1866, Магілёў – 1959, Тэль Авіў). Грамадскі і палітычны дзеяч, скончыў юрыдычны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. Удзельнік Першага сіяніscкага кангрэсу. Пераехаў у Палесціну ў 1907 годзе.

**Эліягу Добкін** (1898, Бабруйск – 1976, Тэль Авіў). Адзін з лідараў руху рабочых сіяністаў. Вучыўся ў Харкаве, пасля Першай сусветнай вайны перабраўся ў Беласток. У 1932 годзе эміграваў у падмандатную Палесціну. Падчас Другой сусветнай вайны арганізаваў нелегальную іміграцыю еўрапейскіх габрэяў у Палесціну. Заснавальнік Музея Ізраіля.

**Зэеў Голд** (1889, Шчучын, – 1956, Ерусалім). Рабін у восьмым пакаленні. У 1907 эміграваў у ЗША, дзе быў адным з піянераў артадаксальнага юдаізму. У 1935 годзе эміграваў у Палесціну.

**Эліэзэр Каплан** (1891, Мінск – 1952, Тэль Авіў). Палітык, сіяніscкі актывіст. Скончыў Маскоўскі політэхнічны інстытут. Удзельнік дэлегацыі УНР на Парыжскай мірнай канферэнцыі. У 1920 годзе іміграваў у Палесціну. Пасля абвяшчэння незалежнасці займаў пасты міністра фінансаў, міністра гандлю і прамысловасці, у 1952 – быў віцэ-прэм’ерам Ізраіля.

**Аўрам Кацнэльсон** (1888, Бабруйск – 1956). Вучыўся ў Маскоўскім і Пецярбургскім універсітэтах, доктар медыцыны. Падчас Першай сусветнай вайны – лекар у расійскім войску. З 1924 году ў Палесціне. Пасля абвяшчэння незалежнасці – на дыпламатычнай працы ў ААН, Швецыі.

**Мошэ Коль** (1911, Пінск – 1989). Палітык, сіяніscкі актывіст. Іміграваў у Палесціну ў 1932 годзе. У 1960-70-х гадах займаў пасады міністра турызму і міністра развіцця. Аўтар некалькіх кніг пра ізраільскую знешнюю і ўнутраную палітыку.

**Мошэ Давід Рэмэз** (1889, Копысь – 1951, Ерусалім). Палітычны і дзяржаўны дзеяч. Пераехаў у асманскую Палесціну ў 1913 годзе. За часы брытанскага мандату адзін з заснавальнікаў левай партыі Мапай, лідар прафсаюзнага руху. Пасля абвяшчэння незалежнасці займаў пасады міністра транспарту, пасля міністра адукацыі. Пісаў артыкулы і вершы, увёў у сучасны іўрыт нямала новых слоў і выразаў.

**Хаім Мошэ Шапіра** (1902, Горадня – 1970). Палітычны і дзяржаўны дзеяч, палітычны лідар рэлігійнага сіянізму. Пасля Першай сусветнай вайны жыў у Коўне, Вільні, Варшаве, Берліне. У 1925 годзе іміграваў у Палесціну. У 1938 годзе быў накіраваны з місіяй ратавання габрэяў Аўстрыі пасля Аншлюсу. Пасля абвяшчэння незалежнасці займаў пасады міністра аховы здароўя, міністра ўнутраных спраў, міністра ў справах рэлігіі.

**Зэрах Варгафтыг** (1906, Ваўкавыск – 2002). Юрыст, палітык і рабін. Скончыў юрыдычны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта. З пачаткам Другой сусветнай вайны ўцёк з Польшчы ў Літву. Падчас вайны разам з японскім віцэ-консулам у Літве Сугіхарам арганізаваў выдачу габрэйскім уцекачам віз для праезду праз СССР і Японію на востраў Кюрасао, усяго было выдадзена 1600 віз і ўратавана шмат жыццяў. Іміграваў у падмандатную Палесціну ў 1947 годзе. Адзін з заснавальнікаў Універсітэта Бар-Ілана.

**Арон Цызьлінг** (1901, Нарачэвічы, Мінская губерня – 1964, Эйн-Харод). Грамадзкі і палітычны дзеяч. У 1914 годзе пераехаў з сям’ёй у Палесціну. У 1930-х гадах актывіст моладзевага руху, які займаўся ратаваннем габрэйскай моладзі ад нацыстаў. Пасля абвяшчэння незалежнасці быў першым міністрам сельскай гаспадаркі Ізраіля.

З Беларусі паходзіць і шмат іншых ізраільскіх дзяржаўных, палітычных і грамадскіх дзеячоў, у тым ліку тры прэзідэнты – Хаім Вейцман (першы, 1949–1952), Залман Шазар (трэці, 1963–1973) і Шымон Перэс (дзявяты, 2007–2014).

Сяргей Шупа, “Радыё Свабода”

навіны

# МІНКУЛЬТ БЕЛАРУСІ АДМОВІЎ ТБМ ВА ЎШАНАВАННІ БАРЫСА КІТА НА ДЗЯРЖАЎНЫМ УЗРОЎНІ

Вечарына памяці Барыса Кіта, прысвечаная 108-й гадавіне з дня яго нараджэння, прайшла ў сядзібе Таварыства беларускай мовы.



Старшыня ТБМ, дэпутатка Палаты прадстаўнікоў Алена Анісім успомніла добрым словам Барыса Кіта як асветніка, навукоўца, шчырага патрыёта, які ніколі не здраджваў беларушчыне.

Алена Анісім расказала, што ТБМ сёлета, пасля смерці Барыса Кіта, накіравала ў Адміністрацыю прэзідэнта ліст з прапановай ушанаваць памяць выдатнага асветніка і навукоўца на дзяржаўным узроўні, але атрымала адказ ад намесніка міністра культуры Аляксандра Яцко.

У ім гаворыцца, што Барыс Кіт ужо ўшанаваны ў Беларусі – ён з'яўляецца ганаровым грамадзянінам горада Навагрудка і ганаровым доктарам Гродзенскага ўніверсітэта, у Навагрудскім дзяржаўным краязнаўчым музеі яму прысвечана экспазіцыя, а ў Навагрудскай сярэдняй школе № 1, дзе ён быў дырэктарам, створаны музейны пакой.

Наконт выдання паштовага канверта ці маркі ў гонар Кіта Яцко адказаў, што яны могуць быць выдадзеныя толькі праз 5 гадоў пасля смерці чалавека ці да юбілеяў. Паводле Мінкульта, няма магчымасці арганізаваць экспазіцыю, прысвечаную Барысу Кіту, у Нацыянальным гістарычным музеі, бо ў яго фондах няма матэрыялаў пра жыццё і дзейнасць гэтага навукоўца.

Разам з тым, паводле Яцко, у новым будынку гістарычнага музея могуць з'явіцца згадкі пра Кіта, таму што там адзін з раздзелаў будзе прысвечаны беларусам замежжа. Больш ушаноўваць памяць Барыса Кіта на дзяржаўным узроўні не плануецца.

Аўтарка кніг пра Кіта Лідзія Савік сказала, што той і не спадзяваўся на цяперашнія беларускія ўлады, а зробленае для ўшанавання ягонага імя ў Беларусі здзейснена не ўладамі, а грамадскасцю.

Барыс Кіт нарадзіўся ў 1910 годзе ў Санкт-Пецярбургу. Бачыў Лютаўскую рэвалюцыю. Пасля кастрычніцкага перавароту ягоны бацька, ратуючыся, перавёз сям'ю ў вёску Агароднікі Карэліцкага раёна. Скончыў Віленскі ўніверсітэт імя Стэфана Баторыя, выкладаў матэматыку і быў дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі, пазней Навагрудскай гімназіі. За беларускую дзейнасць пераследаваўся ўладамі Польшчы, СССР, нацысцкай Нямеччыны. У 38 гадоў эміграваў у ЗША. Працаваў у розных кампаніях, удзельнічаў у амерыканскіх праектах падрыхтоўкі да палётаў у космас, даследаваў касмічныя праграмы СССР. Прафесар, доктар філасофіі ў галіне матэматыкі, акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, сябра многіх іншых міжнародных і нацыянальных акадэмій і аб'яднанняў.

Памёр 1 лютага 2018 года на 108-м годзе жыцця. Пахаваны ў Вісбадэне.

**Валер Каліноўскі, "Радыё Свабода"**

# ІНСТЫТУТ СУСВЕТНАЙ ЛІТАРАТУРЫ РАН ПЕРАДАЎ БЕЛАРУСІ КОПІІ ДАКУМЕНТАЎ, ЗВЯЗАНЫХ З СЯМ'ЁЙ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Інстытут сусветнай літаратуры імя Максіма Горкага Расійскай акадэміі навук перадаў Беларусі копіі 314 дакументаў.



Дагавор аб перадачы дакументаў 2 красавіка ў Мінску падпісалі дырэктар інстытута РАН Вадзім Палонскі і Генадзь Ляхновіч, намеснік дырэктара Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, у склад якога ў статусе філіяла ўваходзіць Літаратурны музей Максіма Багдановіча.

"Дзве выдатныя літаратурныя сям'і, з якіх выйшлі класікі рускай і беларускай літаратуры, аказаліся пародненыя сваяцкай сувяззю, – сказаў на прымеркаванай да гэтай падзеі прэс-канферэнцыі Палонскі. – Гаворка ідзе пра сям'ю Пешкава – сям'ю Аляксея Максімавіча Пешкава, або Максіма Горкага, і сям'ю Багдановічаў. Бацька выдатнага беларускага паэта Максіма Багдановіча, буйны літаратар, яркі этнограф і фалькларыст Адам Ягоравіч Багдановіч быў жанаты з Аляксандрай Паўлаўнай Волжынай – сястрой жонкі Горкага.

Адама Багдановіча прымалі ў доме Пешкавых, паміж імі ўсталяваліся цёплыя чалавечыя адносіны, якія перараслі ў цесныя творчыя сувязі, што працягваліся на працягу дзесяцігоддзяў. Сведчаннем таму з'яўляецца вялікі корпус дакументаў. Перш за ўсё, перапіска Адама Багдановіча з Аляксеем Пешкавым, сваёй жонкай Аляксандрай Паўлаўнай, жонкай Горкага Кацярынай Паўлаўнай, сакратаром Горкага Кручковым, шэрагам іншых людзей, так ці інакш звязаных з Горкім", – адзначыў навуковец.

Паводле слоў Палонскага, корпус гэтых дакументаў у асноўным знаходзіцца ў архіве Горкага ў Інстытуце сусветнай літаратуры РАН і доўгі час даследчыкі з Беларусі мелі пэўныя складанасці з доступам да гэтага архіва.

"Мы прынялі важнае рашэнне для адзінства нашых культур і навуковых традыцый – перадаць беларускаму боку копіі гэтых карпусоў, – заявіў дырэктар інстытута РАН. – Гэта эпісталярый Адама Багдановіча: яго лісты, перапіска з Пешкавымі і Кручковым. Гэта 314 вельмі важных і істотных дакументаў, якія дазваляюць аднавіць летапіс жыцця і творчасці і Багдановічаў, і Горкага, і яго атачэння, дазваляюць у новым святле ўбачыць вельмі многія важныя старонкі вялікай гісторыі літаратуры і культуры нашых народаў".

У сваю чаргу музей Багдановіча перадаў Інстытуту сусветнай літаратуры РАН копіі дакументаў, у прыватнасці чарнавікоў з успамінамі Адама Багдановіча аб Горкім, лістоў жонкі Горкага Багдановічу, перапіскі з Музеем Горкага і рэдакцыяй "Литературного наследства" ў Маскве.

Палонскі паведаміў, што ў 2018 годзе на аснове гэтых дакументаў плануецца выпусціць ілюстраваны альбом, прысвечаны сем'ям Пешкавых і Багдановічаў.

**"Народная Воля" паводле БелаПАН**

навіны

# У КІШЫНЁВЕ АДКРЫЛІ ПОМНІК СКАРЫНУ

Геніка Лойку, аўтара помніка беларускаму першадрукару Францішку Скарыну ў сталіцы Малдовы, на адкрыццё не запрасілі.




У Кішынёве ўрачыста адкрыты бюст беларускага першадрукара і асветніка Францішка Скарыны. Помнік аўтарства мінскага скульптара Геніка Лойкі ўстаноўлены ў скверы побач з амбасадай Беларусі ў Малдове. Самога скульптара ў Малдову не запрасілі і з падзеяй не павіншавалі.

Як паведамляюць малдаўскія СМІ, у цырымоніі бралі ўдзел міністарка адукацыі, культуры і даследаванняў Малдовы Моніка Бабук і яе беларускі калега Юры Бондар. Кіраўнік беларускага Мінкульта знаходзіўся ў Кішынёве ў складзе афіцыйнай дэлегацыі на чале з Аляксандрам Лукашэнкам.

Паводле БелТА, сам Лукашэнка займаўся іншымі справамі – сеяў кукурузу разам з прэзідэнтам гэтай краіны Ігарам Дадонам.

Як піша малдаўскае агенцтва NOI, у сваім выступе Моніка Бабук адзначыла, што адкрыццё помніка Скарыну – гэта важная падзея, якая зробіць істотны ўнёсак ва ўмацаванне культурных сувязяў паміж Малдовай і Беларуссю.

У ліпені 2017 года Генік Лойка стаў пераможцам конкурсу эскізных праектаў на бюст Францішка Скарыны ў Кішынёве – ягоную заяўку прафесійнае журы прызнала найлепшай з дзясятка. Згодна з патрабаваннямі, кампазіцыйнае і пластычнае выкананне мусіла быць рэалізаванае "ў найлепшых традыцыях класічнага і нацыянальнага манументальнага мастацтва".

Спачатку на помнік з улікам матэрыялу меркавалася патраціць не больш за 150 тысяч рублёў. Аднак у працэсе суму зменшылі ў 10 разоў. Скульптар кажа, што збольшага задаволены працай, за выключэннем некаторых нюансаў. Галоўная прэтэнзія да напісання імя Скарыны. Згодна з умовамі конкурсу, як сцвярджаюць арганізатары, на помніку павінен значыцца "Францыск", Лойка ж настойваў на "Францішку". Адстаяць свой варыянт яму не ўдалося.

Выдаткі на распрацоўку праектнай дакументацыі, выкананне, мантаж бюста, а таксама добраўпарадкаванне прылеглай тэрыторыі былі пакрытыя з бюджэту Беларусі.

**Ігар Карней, "Радыё Свабода"**

# У ЛУЦКУ ВЫЙШЛА КНІГА АКСАНЫ СПРЫНЧАН "КАВА З УКРАІНСКІМ МЁДАМ"

Кніга выдадзена на дзвюх мовах.

Дзед Аксаны – вядомы беларускі паэт Браніслаў Спрынчан, быў родам з Украіны, з сяла Каніж Новаміргарадскага раёна Кіравагградскай вобласці. Хоць і пісаў Браніслаў Спрынчан больш на рускай мове, аднак жа выдатна і паветра, аўру беларускага слова ён адчуваў, бачыў усе колеры беларускай паэзіі. Шмат перакладаў вершаў беларускіх класікаў і паэтаў-сучаснікаў на рускую мову. Падзеяй у літаратурным жыцці ў свой час было выданне "Вянка" Максіма Багдановіча ў пераўвасабленні на рускую мову Браніслава Спрынчана.




Паэтычны зборнік Аксаны Спрынчан "Кава з украінскім мёдам" – гэты творчы праект, які з украінскага боку як перакладчык ажыццяўляў Мікола Мартынюк, заслугоўвае шырокай увагі. Папершае, кніга выдадзена ў Луцку на дзвюх мовах. І ў чытача як з Украіны, так і з Беларусі ёсць магчымасць спрычыніцца да прыгожага пісьменства суседняга народа. Па-другое, сам факт з'яўлення ёмістага, грунтоўнага паэтычнага зборніка беларускай аўтаркі ў суседняй краіне сведчыць пра непарушнасць культурных, літаратурных сувязяў нашых народаў.

"Кава з украінскім мёдам" – гэта і прыгожы, вытанчаны напамін: украінскія перакладчыкі праз усё XX стагоддзе былі ўважлівыя да беларускай паэзіі. Кнігі вершаў і паэм Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Караткевіча, Пімена Панчанкі, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Яўгеніі Янішчыц, Алега Лойкі для чытача з неабсяжнай украінскай прасторы гучалі ды гучаць – як родныя. Спадзяваемся, што такім жа дружалюбным і для паэтаў, і для чытачоў будзе і XXI стагоддзе. Так яно і ёсць цяпер, бо ва Украіне выдаюцца кнігі Людмілы Рублеўскай, Алены Масла ды шмат яшчэ каго з сучасных беларускіх пісьменнікаў, а цяпер яшчэ і Аксаны Спрынчан.

"Менавіта з Вамі/ мне было/ пабачыцца ў Вільні/ ў часы Вялікага Княства Літоўскага./ Як маглі Вы спазніцца/ на гэтулькі стагоддзяў/ і сустрэцца са мною/ на вуліцах іншай сталіцы?..", – піша Аксана Спрынчан. Тонкі лірык, яна не цураецца грамадзянскіх матываў, робіць гэта шчыра і прачула. Таму і цягне да сябе, таму і вабіць яе паэзія. Таму і кожная кніга Аксаны Спрынчан – гэта як цудадзейная крынічная вада. У кнізе, якая выйшла ў свет на дзвюх мовах, ёсць і ўкраінскія, валынскія матывы, а Луцк, нагадаю, гэта сталіца слаўнага Валынскага краю.

**Мікола Берлеж, "Голас Радзімы"**

навіны

# ПАСОЛЬСТВА БЕЛАРУСІ Ў АЎСТРАЛІІ Ў ЖНІЎНІ СПЫНІЦЬ СВАЮ РАБОТУ

Пасольства Беларусі ў Аўстраліі і па сумяшчальніцтве ў Новай Зеландыі закрыюць да канца жніўня бягучага года. Такая інфармацыя размешчана на сайце беларускай дыпмісіі.



У пасольстве растлумачылі, што яно закрываецца ў рамках аптымізацыі Міністэрства замежных спраў. У астатні перыяд беларуская дыпмісія будзе прадаўжаць работу па прыёме дакументаў, якія датычацца наступных консульскіх пытанняў: па афармленні ўязных віз – да 8 жніўня, па афармленні пасведчанняў на вяртанне – да 10 ліпеня, па выпатрабаванні дакументаў (напрыклад, даведкі аб адсутнасці судзімасці) – да 10 мая, па прадаўжэнні пашпарта грамадзяніна Рэспублікі Беларусь – да 10 ліпеня, па пастаноўцы і зняцці з консульскага ўліку – да 27 ліпеня, для ажыццяўлення натарыяльных дзеянняў (у прыватнасці, засведчванне даверанасцей, згоды) – да 8 жніўня.

Грамадзяне Беларусі, якія раней звярталіся па консульскіх пытаннях у пасольства ў Аўстраліі, цяпер павінны будуць звяртацца ў найбліжэйшую дыпкропку Беларусі – у Джакарце (Інданезія).

"З 1 ліпеня 2018 года грамадзяне, якія знаходзяцца на консульскім уліку ў пасольстве Беларусі ў Аўстраліі, будуць пераведзены на консульскі ўлік у пасольства Беларусі ў Інданезіі. Разам з тым ахвочым знаходзіцца на консульскім уліку ў іншай замежнай установе Рэспублікі Беларусь неабходна накіраваць аб гэтым пісьмовае паведамленне ў пасольства Беларусі ў Аўстраліі да 1 чэрвеня 2018 года", – папярэдзілі ў дыпмісіі.

Пасольства ў Аўстраліі будзе прадаўжаць работу па абароне правоў і інтарэсаў беларускіх грамадзян у адпаведнасці з Венскай канвенцыяй аб консульскіх зносінах аж да свайго фактычнага закрыцця.

БЕЛТА

## ПАМЁР МІКАЛАЙ ЧЫРКО



У ноч з 26 на 27 сакавіка 2018 года ў г. Самара на 70 годзе жыцця раптоўна памёр віцэ-прэзідэнт Самарскай абласной грамадскай арганізацыі беларусаў і выхадцаў з Рэспублікі Беларусь "Руска-Беларускае Братэрства 2000" Мікалай Сцяпанавіч Чырко.

Мікалай Сцяпанавіч нарадзіўся 23 красавіка 1948 года ў вёсцы Дзераўная Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці.

Пасля заканчэння ў 1966 годзе Брэсцкага радыётэхнікума, ён быў накіраваны па размеркаванні на Куйбышаўскі ракетабудаўнічы завод "Прогресс". З 1967 па 1988 гг. – начальнік цэха завода.

З 1988 па 1990 гг. – намеснік генеральнага дырэктара ВА "Экран".

З 1990 па 1991 гг. – намеснік генеральнага дырэктара ВА "Красный молот" у горадзе Грозный.

З 1992 па 1994 г. – прадстаўнік ВА "Кагалымнафтагаз".

У 1995–1996 гадах вучыўся ў Плехановскай акадэміі народнай гаспадаркі. Пасля яе заканчэння працаваў старшынёй праўлення Аган-банка, затым перайшоў у "РАО ЕЭС России" у горадзе Самара.

З 2001 года ў шэрагах актывістаў Самарскай абласной грамадскай арганізацыі беларусаў і выхадцаў з Беларусі "Руска-Беларускае Братэрства 2000", у 2003 годзе на Агульным сходзе абраны віцэ-прэзідэнтам.

У Мікалая Чырко засталіся жонка, дачка і двое ўнукаў.

Мы смуткуем і выказваем глыбокія спачуванні родным і блізкім.

**Праўленне і члены Абласной грамадскай арганізацыі беларусаў і выхадцаў з Беларусі "Руска-Беларускае Братэрства 2000"**

## СПАЧУВАННІ ВАЛЯНЦІНЕ ШАЎЧЭНКА

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні сябру Рады Валянціне Шаўчэнка з нагоды смерці маці – Марыі Федараўны Булаўка.

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

## Беларускі каляндар памятных дат на травень 2018 года

3 траўня – 155 гадоў таму, у 1863-м, загінуў Уладзіслаў Машэўскі, палявы паўстанцкі камандзір.

4 траўня – 180 гадоў таму, у 1838-м, нарадзіўся Уладзімір Корсак, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

4 траўня – 155 гадоў таму, у 1863-м, загінуў Людвік Нарбут, адзін з кіраўнікоў вызваленчага паўстання 1864–1864 гг.

7 траўня – 150 гадоў таму, у 1868-м, нарадзіўся Раман Скірмунт, палітычны, грамадскі дзеяч.

8 траўня – 135 гадоў таму, у 1883-м, нарадзіўся Сцяпан Некрашэвіч, мовазнавец, грамадскі дзеяч.

10 траўня – 135 гадоў таму, у 1883-м, нарадзіўся Янка Маўр (сапр. Іван Фёдараў), пісьменнік, перакладчык, адзін з пачынальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры.

10 траўня – 20 гадоў таму, у 1998-м, памёр Уладзімір Шурпа, паэт, журналіст,.

11 траўня – 65 гадоў таму, у 1953-м, памёр Гасан Канапацкі, дзеяч вайсковага і нацыянальнага руху.

12 траўня – 185 гадоў таму, у 1833-м, нарадзіўся Бенедыкт Дыбоўскі, заолаг, прыродазнавец, лекар, публіцыст, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

12 траўня – 155 гадоў таму, у 1863-м, памёр Баляслаў Кульчыцкі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863 г.

21 траўня – 120 гадоў таму, у 1898-м, нарадзіўся Кастусь Кіслы, музыкант, кампазітар, дырыжор, дзеяч эміграцыі ў Бельгіі і ЗША.

21 траўня – 95 гадоў таму, у 1923-м, нарадзіўся Міхась Капціловіч, удзельнік Саюза Вызвалення Беларусі.

21 траўня – 35 гадоў таму, у 1983-м, памёр мітрапаліт Андрэй (Аляксандр Крыт), рэлігійны і грамадскі дзеяч, педагог, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Вялікабрытаніі і ЗША.

22 траўня – 155 гадоў таму, у 1863-м, расстраляны ксёндз Станіслаў Ішора.

23 траўня – 265 гадоў таму, у 1753-м, памерла Францішка Уршуля Радзівіл, пісьменніца, драматург.

23 траўня – 95 гадоў таму, у 1923-м, нарадзіўся Міхась Ганько, палітычны і грамадска-культурны дзеяч эміграцыі ў Аўстрыі і Канадзе.

23 траўня – 45 гадоў таму, у 1973-м, памёр Мікалай Каранеўскі, інжынер, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

24 траўня – 155 гадоў таму, у 1863-м, расстраляны ксёндз Раймунд Зямацкі.

24 траўня – 55 гадоў таму, у 1963-м, нарадзіўся Зміцер Кісель, грамадскі дзеяч.

25 траўня – 50 гадоў таму, у 1968-м, памёр Франц Кушаль, вайсковец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

26 траўня – 155 гадоў таму, у 1863-м, памёр Генрык Дмахоўскі, скульптар, удзельнік паўстанняў 1830–1831 і 1863–1864 гг.

28 траўня – 155 гадоў таму, у 1863-м, памёр Вікенці Козел, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

29 траўня – 85 гадоў таму, у 1933-м, нарадзіўся Мікола Гайдук, пісьменнік, публіцыст.

**Беларусы ў свеце**
No 4 (191), красавік 2018

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27